*Сёння і заўтра яшчэ не позна падпісацца на «Народную Волю» на II квартал*

# Народная Воля

№ 23 (4070)

25 сакавіка 2016 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

**АНОНС**

**В следующем номере «Народной Воли» будет напечатана статья известного публициста и политолога, доктора философских наук, профессора Вячеслава Оргиша, который на основе глубоких размышлений приглашает всех нас совершенно по-иному взглянуть на состояние дел в белорусском обществе и на его будущее.**

**Редакция.**

АКТУАЛИИ



Светлана КАЛИНКИНА

## Не заслужил

Очень прошу понять меня правильно. Тема весьма деликатная и неприятная, а главное – может быть неверно воспринята человеком, обидеть которого мне хотелось бы меньше всего.

Игорь Михайлович Лученок. Человек легендарный, заслуженный, титулованный, уважаемый, уникальный… В общем, он у нас в Беларуси один такой. Да, наверное, и на просторах всего былого Союза их только двое мастодонтов осталось – Лученок да Пахмутова.

Кому-то он нравится, кому-то не нравится, но уж точно имеет право почивать на лаврах заслуг, заседать в президиумах, быть почетным, обласканным и нескромным. Поэтому я хочу призвать: «Перестаньте издеваться над Лученком!»

Недавно Игоря Михайловича вновь избрали председателем Союза композиторов Беларуси. И в сложившихся обстоятельствах это выглядит просто неприлично.

Нет, конечно, он достоин. Кто вообще тогда достоин этого поста, если не Лученок?! Но потакать публичному унижению заслуженного человека – это… Вы меня простите…

Коллеги по цеху пели-плясали на всех парадных сходах, на всех государственных приемах, на всех официальных и неофициальных праздниках. В избирательных комиссиях заседали, на разные голоса призывали голосовать за эту власть, работали «фронтовыми агитбригадами» за Лукашенко, за посевную, за уборочную. Первым лицам государства не только руку пожимали, но и подпевали, и подтанцовывали. А что заслужили?

Союз композиторов размещался в приличном месте, в центре города, на площади Свободы. Там, где Республиканская гимназия-колледж при Белорусской академии музыки. Гаммы – в окна, юные гении – под окнами. Хорошее место было, хорошее здание – этакая демонстрация престижа, уважения государства к столь важному творческому сообществу. И Лученку как председателю Союза композиторов, заслуженному человеку было куда прийти, было куда гостей пригласить.

Но… Выкинули. Вот просто под зад ногой выставили с обжитого места. Потому что занимаемое Союзом композиторов помещение понадобилось для более важных государственных нужд. Ни на авторитет Лученка не посмотрели, ни на заслуги, ни на звания. В два счета категорично выставили вон!

Не на окраину города, конечно, не в новостройки. Новое помещение тоже в центре, но уже в глубине квартала, по адресу ул.Революционная, 8. Старое пошарпанное здание с рассохшимися окнами и облупленными стенами. Одним словом, с центрального проспекта выселили композиторов просто в другой мир.

Мало того, помещение теперь находится на втором этаже. В старом послевоенном доме без лифта. Игорь Лученок и дойти до нового рабочего кабинета не может. Просто физически не может! Ему же, немолодому, заслуженному-перезаслуженному человеку, ногу в самой блатной клинике страны лечили. Инъекциями, примочками, прогреваниями, массажами и черт знает чем еще. Лечили несколько лет! Только все это было – что мертвому припарка, потому как на самом деле у Лученка оказался перелом шейки бедра. Каким образом в лучшей клинике страны при наличии самой современной аппаратуры умудрились только через несколько лет лечения распознать перелом – это тема для отдельного разговора. Но человек реально не мог ходить. А его – на второй этаж, на Революционную… Уважили, как говорится. На полную катушку отблагодарили. По комплексу заслуг.

Он и сейчас хромает. И сейчас добрести до выделенного государством кабинета для него настоящая пытка. Но коллеги по музыкальному цеху пели-плясали, будто ни о чем и не ведали. Рот никто не открыл, чтобы за Лученка заступиться. Ни в минорной тональности, ни в мажорной.

Хотя «государственные нужды», под которые у Союза композиторов помещение отобрали, оказались весьма банальны. В здании теперь размещается пафосный ресторан «Галерея», в котором простенький салат из свеклы с сыром стоит 80 тысяч рублей, и дальше в меню слабонервным лучше не заглядывать. А еще салон красоты «Модис» – обычный салон, каких много. Конечно, Союз композиторов такую стоимость аренды не потянул бы. Но он ведь у нас в стране один, а ресторанов да парикмахерских – счет потеряли. Однако же свои приоритеты государство расставило четко, только дурак не понял.

И вот теперь, после всего этого, Лученка будто в издевку вновь избирают председателем Союза композиторов Беларуси. Хорошие слова произносят, говорят, что он много для членов Союза сделал.

Да, он многое в своей жизни сделал. Заслужил почет и уважение. Но вот пренебрежения и невнимания не заслужил. Зачем же его – как дурилку картонную… Зачем с ним так? За что ему это?..

БЛІЦ

*Высокія чыноўнікі б'юць сябе ў грудзі, заяўляючы: беларускае выбарчае заканадаўства ледзь не самае лепшае ў свеце. Іх апаненты сцвярджаюць адваротнае: пакуль у ім будзе шмат магчымасцяў для фальсіфікацыі выбараў, гаварыць аб дэмакратыі ў краіне бессэнсоўна. Вось адказы людзей на пытанне "Народнай Волі":*

## БЕЛАРУСКАЕ ВЫБАРЧАЕ ЗАКАНАДАЎСТВА: ДЭМАКРАТЫЧНАЕ ЦІ НЕ?

**Сяргей КАЛЯКІН, кіраўнік Беларускай партыі левых "Справядлівы свет":**

– Гэта, як кажуць, справа густу. Паводле беларускага заканадаўства можна правесці абсалютна празрыстыя і справядлівыя выбары. Для гэтага трэба трактаваць заканадаўства як дазваляльнае і на карысць грамадзян – маўляў, усё, што не забаронена, дазволена. Але ў нас падаюць па-іншаму: што ў законе наўпрост не дазволена, тое забаронена.

З такім падыходам правесці дэмакратычныя выбары немагчыма. Таму мы сёння і імкнёмся дамагчыся таго, каб у выбарчае заканадаўства былі ўключаны прапановы, якія ўстанаўлівалі б празрыстасць працэдур, што зараз не прапісаны ў законе.

**Аляксандр КУЛІНКОВІЧ, лідар гурта Neuro Dubel:**

– На свой сорам, я дрэнна ведаю выбарчае заканадаўства Беларусі, але справа нават не ў тым, дэмакратычнае яно альбо не. Мне падаецца, што дэмакратычнае. Толькі гэта не важна, бо, напрыклад, канстытуцыі ўсіх краін добрыя. Іншая справа: ці выконваюцца яны? У многіх краінах не выконваюцца. Так і правы. Калі захоча выбаршчык, каб яго правы захоўваліся, магчыма, так і будзе. Калі людзям усё роўна – таксама так і будзе. Я не веру прапісным законам. Я веру ў правы кожнага чалавека.

**Марыя ГЕРАСІМОВІЧ, пенсіянерка:**

– Я не ведаю ўсе нюансы выбарчага заканадаўства, але, мяркую, што большасць беларусаў усё роўна галасуюць за дзеючага кіраўніка краіны. На мой погляд, у любым выпадку няма сярод апазіцыі моцнага лідара, які мог бы супрацьстаяць Лукашэнку. А ў такім выпадку астатняе ўжо не так і важна.

**Мікалай ДЗЯДОК, студэнт ЕГУ:**

– Недэмакратычнае, бо любыя парасткі дэмакратыі (тым больш у такім важным інстытуце, як выбарчае правы) для беларускай улады фатальныя.

**Віктар МАРЧЫК, былы прадпрымальнік (зараз часова беспрацоўны):**

– Я сам браў удзел у выбарчай кампаніі ў мясцовыя Саветы і ведаю, як усё робіцца. Па сутнасці, немагчыма адсачыць, як лічаць галасы. А гэта самае галоўнае. Усё астатняе (празрыстыя скрыні, назіральнікі, якія бачаць толькі тое, што ім дазваляюць бачыць) на выніку падліку ніякім чынам паўплываць не можа. Таму лічу выбарчае заканадаўства недэмакратычным.

**Канстанцін, рабочы Мінскага трактарнага завода (прозвішча маецца ў рэдакцыі):**

– Я наогул не хаджу на выбары. Які сэнс, калі ўсё зараней вядома? Таму і ваша пытанне бессэнсоўнае.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

СКАЗАНА!





Аляксандр ЛУКАШЭНКА, прэзідэнт Рэспублікі Беларусь:

– Як вы *(маюцца на ўвазе палякі. – **Рэд.**)* бароніце свой суверэнітэт і незалежнасць, так і мы будзем бараніць. Тут у нас абсалютна няма разыходжанняў. Нават іншы раз падглядаем у вас, як гэта рабіць. Як вы ажыццяўляеце сацыяльна-эканамічную палітыку ўнутры краіны, так і мы будзем рабіць. Пры гэтым будзем старацца рабіць так, каб ніхто нас ніколі не папракнуў у малой дэмакратыі, у адсутнасці яе. Мы будзем так рабіць, каб яе было не менш, чым у Польшчы…

Калі вам такі фармат падыходзіць, дык мы вельмі хутка дамовімся. Не прыняць такі фармат, думаю, вам будзе складана, таму што мы дзейнічаем менавіта па вашых правілах.

…Думаю, што Польшча больш, чым хто-небудзь, зацікаўлена, каб Беларусь была не толькі незалежнай дзяржавай, але і стабільнай. Думаю, вам нестабільная яшчэ адна дзяржава на захадзе пасля Украіны не патрэбна. Гэта не на карысць будзе Польшчы.

*(З выступлення падчас сустрэчы з В.Вашчыкоўскім)*

Вітольд ВАШЧЫКОЎСКІ, міністр замежных спраў Польшчы:

– Мой візіт у Беларусь – гэта пачатак дзейнасці новага ўрада, які я прадстаўляю… Дыпламатычна гэта вельмі важна, гэта азначае, што мы хочам думаць і выражаць праблемы нашага суседства самым сур'ёзным чынам…

…Я прадстаўляю ўрад, які паходзіць з вялікага руху "Салідарнасць". Рух "Салідарнасць" на працягу многіх гадоў змагаўся за правы чалавека і дэмакратыі і ў выніку перамог. І наш урад будзе казаць пра пытанні правоў чалавека і дэмакратыі, і я сказаў, што мы будзем гэта рабіць.

З іншага боку, мы не будзем рабіць рэвалюцыю, не будзем арганізоўваць пераварот, Майдан, але мы хочам, каб змены адбываліся згодна з прынцыпамі дэмакратыі і правоў чалавека эвалюцыйным шляхам. І мы можам дапамагчы ў гэтай эвалюцыі. Мы можам даць экспертаў, падзяліцца сваім досведам. Але змены – гэта адказнасць тых краін, у якіх яны павінны адбыцца.

*(З выступлення 22 сакавіка 2016 года падчас сустрэчы з прадстаўнікамі беларускай грамадзянскай супольнасці.)*

УЧОРА

## Выстава пра пакуты нацыі і гісторыю Курапатаў

Напярэдадні Дня Волі, 24 сакавіка, у Мінску ў офісе аддзела адукацыі, інфармацыі і культуры амбасады ЗША *(вул. Мяснікова, 78)* адкрылася дакументальна-мастацкая выстава "Праўда пра Курапаты. Факты, дакументы, сведчанні".

Экспазіцыя, падрыхтаваная сябрамі грамадзянскай ініцыятывы "Эксперты ў абарону Курапатаў" і творцамі суполкі "Пагоня" Беларускага саюза мастакоў пры падтрымцы шэрагу структур грамадзянскай супольнасці, упершыню дэманстравалася ў сталічным Палацы мастацтва з 14 па 17 лістапада 2015 года. І атрымала вялікі розгалас у грамадстве.

На адкрыцці экспазіцыі прысутнічаў Часовы Павераны ў Справах ЗША ў Беларусі **Скот Роланд,** які і запрасіў выставу разам з яе стваральнікамі ў амерыканскую амбасаду. На адкрыцці былі таксама дыпламаты краін Еўрасаюза, Ізраіля і Украіны, вядомыя дзеячы беларускай навукі і культуры, журналісты.

Амерыканскія дыпламаты і госці амбасады пазнаёміліся з экспазіцыяй, якая распавядае пра Курапаты – сімвал пакутніцтва беларусаў, іх змагання за волю і незалежнасць Бацькаўшчыны. У васьмі раздзелах выставы дэманструюцца копіі і здымкі выяўленчых, пісьмовых і рэчавых матэрыялаў, а таксама творы вядомых беларускіх мастакоў Эдуарда Агуновіча, Генадзя Драздова, Геніка Лойкі, Аляксея Марачкіна і Алеся Пушкіна.

**Марат ГАРАВЫ.**

# З 98-мі ўгодкамі Беларускай Народнай Рэспублікі!



**Народны сакратарыят Беларускай Народнай Рэспублікі.**
**Злева направа: сядзяць – А.Бурбіс, І.Серада, Я.Варонка, В.Захарка; стаяць – А.Смоліч, П.Крачэўскі, К.Езавітаў, А.Аўсянік, Л.Заяц.**

*(Працяг тэмы – на 3-й стар.)*



## Еўропа павінна заставацца вернай сваім хрысціянскім караням

*(З пастырскага паслання Мітрапаліта Мінска-Магілёўскага, арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча на Вялікдзень 2016)*

…Будучы адкрытай на іншыя рэлігіі, Еўропа тым не менш павінна заставацца вернай сваім хрысціянскім караням і захаваць сваю хрысціянскую душу.

Падчас доўгіх дзесяцігоддзяў ганенняў на веру наш народ заплаціў высокую цану за свабоду веравызнання. Гэта вялікі дар Божай міласэрнасці, прадказаны Марыяй у Фаціме ў далёкім 1917 годзе. Але гэта таксама вялікае і адказнае заданне – не дапусціць размывання гэтага дару ў мутнай вадзе секулярызму і не страціць яго…

Пасля трох пакаленняў ганенняў і пераследу Каталіцкі Касцёл у Беларусі перажывае сваю Пасху. У гэтым Юбілейным Годзе Божай Міласэрнасці мы адзначаем сярэбраны юбілей адраджэння касцельных структур і ўстанаўлення Св. Янам Паўлам II Мінска-Магілёўскай мітраполіі. Галоўныя ўрачыстасці адбудуцца ў Будславе 1–2 ліпеня гэтага года.

Адраджэнне структур Каталіцкага Касцёла ў Беларусі і яго развіццё яшчэ раз пацвярджае праўду Уваскрэсення Хрыста. Езус, якога цягам трох пакаленняў атэістычныя сілы на нашай зямлі спіхвалі ў магілу і хацелі пахаваць, уваскрос і ўваходзіць у наша жыццё. Ён жыве, Ён з намі, і з Ім жыве Беларусь.

Дарагія браты і сёстры!

Віншую ўсіх вас з радасным і збаўчым святам Пасхі Хрыстовай!

Складаю свае найлепшыя святочныя пажаданні хрысціянам іншых канфесій, якія сёння разам з намі адзначаюць гэтае свята святаў.

Віншую праваслаўных братоў і сясцёр!

Віншую ўсіх людзей добрай волі! Езус збавіў усіх людзей, і ў Ім наша надзея.

Хрыстус уваскрос! Сапраўды ўваскрос! І Ён з намі!

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук

## Спасение утопающих – дело рук самих утопающих

Первый квартал, считай, истек, а спасительных кредитов все нет. Ни от России, ни от МВФ. Правительство и Нацбанк предпринимают немалые усилия, чтобы экономика Беларуси соответствовала требованиям кредиторов, но при этом не покушаясь на основы авторитарной модели управления. Ведь долги надо отдавать уже сегодня. Поиск денег ведется везде. У олигархов, у населения, у предприятий, наконец, у пенсионеров.

Ожидание кредитов томительно еще и тем, что основные социально-экономические показатели Беларуси в январе-феврале продолжали минусовать. ВВП по сравнению с аналогичным периодом прошлого года снизился на 4%, выпуск промышленной продукции – на 4,6%, инвестиции в основной капитал – на 24,6%. Плюсовало только сельское хозяйство (+2,4%), да почти на том же уровне остался самый живучий розничный товарооборот (-0,2%), несмотря на падение реальных располагаемых доходов населения на 5,7%. Объем внешней торговли товарами и услугами тоже солидно просел – на 12,6%. В связи с обвальными девальвациями белорусского рубля ВВП за 2015 год просел со свыше 70 млрд в 2014 году до 55 млрд в долларовом эквиваленте. Такой же ВВП мы имели на начало пятилетки. Только за эти годы валовой внешний долг увеличился на 18,1%, а внешний государственный долг – на 12,6%.

Экономическим властям, естественно, надо что-то предпринимать. Никто же серьезно не будет воспринимать, что можно, ничего не меняя по существу, снизить себестоимость продукции на 25% или вдруг создать 50 тысяч новых рабочих мест, как это прописано в соответствующем указе. Похоже, что инициативу взял на себя Нацбанк. Он сделал ряд решительных шагов, чтобы снизить кредитные проценты для предприятий. Потому что кредиты реальному сектору под 40% в слабеющей не по дням, а по часам белорусской экономике сродни харакири. С 1 апреля главный регулятор снижает ставку рефинансирования с 25% до 24%. Значит, уже автоматически снизятся на 1% ставки депозитов и кредитов по условиям договоров, жестко привязанных к этой базовой величине. Одновременно Нацбанк снижает на 0,5% – с 8% до 7,5% – норму резервирования, оставляя коммерческим банкам немного больше ресурсов для поддержки экономики.

Но это не все. Нацбанк продолжает включать административные рычаги. Регулятор настоятельно рекомендовал банкам дифференцировать уровень процентных ставок по депозитам юридических лиц в зависимости от сроков размещения денежных средств. К примеру, если предприятие размещает временно свободные средства сроком до одного месяца, извольте иметь максимум 12% годовых при инфляции с начала года 12,8%. Верхняя планка доходности по отзывным депозитам свыше месяца для предприятий не будет превышать 21%, по безотзывным вкладам – 24%. По долгосрочным безотзывным вкладам ставки не могут превышать 27% годовых. Понятно, что снижение в приказном порядке депозитных ставок банков как для населения, так и уже для юридических лиц создает экономические возможности для удешевления кредитов бизнесу.

Однако физические вкладчики по-разному отозвались на появление Указа №78, где прописаны новые условия принятия депозитов. Введение отзывных и безотзывных вкладов с разными процентами доходности и возможностью взимать с процентов подоходный налог имело своей целью привлечь в банковскую систему больше так называемых длинных денег. Но пока привело к заметному оттоку из системы рублевых средств. У предприятий не так много свободных денег, они в любой момент могут понадобиться в хозяйственном обороте. Но у предприятий и маневра с рублями существенно меньше, чем у населения. Они не могут положить деньги «под подушку» или купить на все валюту.

Одновременно Нацбанк с 1 апреля снижает верхний уровень ставок по кредитам юридическим лицам с 36% до 33%. Те банки, которые установят стоимость кредитных ресурсов выше этой планки, обязаны будут вносить дополнительные отчисления в фонд обязательных резервов из чистой прибыли. Как видим, главный регулятор, как и ранее, не стесняется методов администрирования в проведении своей денежно-кредитной политики. Ему нужно подстегнуть более дешевыми кредитами экономику и в то же время не увеличить инфляцию.

***(Окончание на 2-й стр.)***

АКЦЫЯ

## Што будзе на Дзень Волі – 2016?

*Сёння ў сталіцы пройдзе святкаванне 98-й гадавіны з дня абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР).*

Мінгарвыканкам даў дазвол на правядзенне акцыі ў Мінску, але пры гэтым быў істотна зменены яе маршрут: дазволены збор удзельнікаў 25 сакавіка ля кінатэатра "Кастрычнік" з 18.00 да 18.30, дэманстрацыя да парку Дружбы Народаў і там жа мітынг.

Са спісу арганізатараў акцыі ўлады выключылі палітыкаў **Аляксея Янукевіча, Мікалая Статкевіча, Анатоля Лябедзьку і Вячаслава Сіўчыка** – тых, хто меў на працягу года адміністрацыйныя спагнанні за парушэнне парадку правядзення масавых акцый.

